доўскай меншасьці. Сэкцыя прызнала за жыдамі права ўжываць сваю мову на сабраньнях. Апрача гэтага сэкцыя зацьвердзіла распараджэньне Міністра унутранных Справаў у справе атрыманьня абыватэльства на крэсах і інш.

—Міністар Марачэўскі (П.П.С.) падаўся ў адстаўку і маніцца выйсьці з каб нэту ня гледзячы на ўгаворы сваей партыі.

—Вайсковы Міністар гэн. Жэлігоўскі мае замер катэгарычна патрабаваць пав роту ў арм ю маршалка Я. Пілсудскага, ставячы ў залежнасьць ад гэтага сваё далейшае супрацоўніцтва ў Урадзе А. Скшынскага.

— У Менска-Мазавецкім Старостве выкрыты непарадкі. У зьвязку з гэтым 15 урадоўцаў аддаюцца пад дысцыплінарны суд.

— У Лодзі выкрыты вялізныя надужыцьці ў паліцыі. У зьвязку з гэтым каманданта паліцыі перавялі на провінцыю.

## За граніцай.

**Амэрыка**. Нью Іоркская Гандлёвая Палата адмовілася ад гандлёвых зносінаў з бальшавікамі і наогул выказалася проці прызнаньня Саветаў. Прадбачыцца, што гэткую жа пастанову вынясуць і іншыя штаты Амэрыкі, а таксама і Канада.

**Францыя**. Прэзыдэнтам парляманту выбраны Эрыё. Рада Міністраў ўнесла ў парлямант праэкт закону, які зьмяняе дасюлешнюю сыстэму выбараў. Кангрэс соцыялістаў высказаўся проці ўваходу ў урад Брыяна. У зьвязку з фінансавым крызісам і праэктамі міністра Думэра аб санацыі фінансаў магчымы кабінэтны крызіс.

**Вэнгрыя**. Сьледзтва ў справе фальшывоманэтчыкаў ідзе вельмі цяжка, бо ў справу замешаны надта высокія „сфэры". Аднак-жа арыштаваныя— больш 24 асобаў, у тым ліку кн. Віндішгрэц і епіскап Задравец, аддаюцца пад суд. Францускія газэты высказываюць жаданьне інтэрвэнцыі, з прычыны таго, што як выясьняе сьледзтва—справа гэта—ня простая справа аб фальшаваньні грошаў, але мае палітычную падставу. Аднак францускі пасол у Вэнгрыі афіцыяльна заявіў прадстаўнікам прэсы, што францускі Урад разглядае гэтую справу, як справу аб звычайным крымінальным праступку аддзельных асобаў. У апошнія дні арыштаваны яшчэ і граф Андрашы.

**Нямеччына**. Усе клопаты Лютэра аб стварэньні „вялікай коаліцыі" з прадстаўнікоў найбольшых партыяў парляманту—ня прыводзяць ні к чаму з прычыны, галоўным чынам, не жаданьня супрацоўнічаць соцыялістаў знацыяналістамі. Гэткім чынам крызіс ураду запягваецца.

У Нямеччыне то тут то там раскрываюцца загавары, якія маюць на мэце манархічны пераварот.

**Італія**. Дэкрэтам караля Мусоліні назначаны міністрам военным, марскім і паветраных сілаў.

**Турцыя**. Хаця па пытаньню аб Масуле і вядуцца перагаворы і ёсьць надзея на ўлажаньне канфлікту, аднак, па заяўленьню камісара па заменжным справам Тэфвік-Бея, Турцыя ніколі не адмовіцца ад сваіх правоў на гэтую провінцыю.

## Агляд прэсы.

Па поваду выязду польскіх соймавых паслоў у С. С. Р. Р. польская газэта „Słowo", кажучы аб складзе гэтай „дэлегацыі", піша:

„Выбар паў на пас. Брыля, Ваяводзкага, Фідэркевіча і кумпанію, як найбліжэйшых па духу да комунізму *і найбольш чуткіх на пэўныя дабрадзействы матэрыяльнага гатунку*".

А далей:

„Паслы Брыль і Фідаркевіч прыймаюць інтэрвьюераў, гавораць прамовы, дзе ў кожным сл ве агідная брахня. П. Брыль кажа, што „вочы польскага рабочага народа зьвернены на Савецкую Беларусь", на што яму адказваюць, што „Савецкая Беларусь заўсёды гатова прац гнуць руку таварышам з Заходняй Беларусі".

Ахарактэрызаваўшы заявы і прамовы паслоў „экскурсантаў", далей аўтар артыкулу зусім справядліва піша:

Справа зусім зразумелая, як цэннымі зьяўляюцца для бальшавікоў гэтыя спавяданьні. Савецкае радіо апавешчае гэта ўсяму сьвету, а тысячы савецкіх часопісаў інфармуюць грамадзкую думку ў Расеі. Каб прыдаць пасольскай экскурсыі яшчэ больш значэньня, савецкая прэса падчырківае, што ў склад яе ўвайшлі „паважныя прадстаўнікі сялянскіх партыяў".

Дык няма дзіва, што „Известия" друкуюць павітальны артыкул, у якім м. інш. напісана:

„Прыезд экскурсыі сьведчыць аб вялізным поступе збліжэньня між Польшчай і С. С. Р. Р. Факт прыезда польскіх парлямэнтарыстаў трэба адзначыць як здарэньне надта радаснае, дзеля таго, што польскія паслы відавочна пракonваюцца аб фальшы дасюляшніх інфармацыяў аб Расеі (!? Рэд.). А тое, што экскурсыя складаецца з прадстаўнікоў партыяў сялянскіх, якія да нядаўняга часу былі воража настроены адносна Саветаў, мае таксама ня меншае значэньне, дзеля таго, што польскія прадстаўнікі перакаваюцца, што С. С. Р. Р. не пагражае незалежнасьці Польшчы...

Кажучы аб гэтым артыкуле „Известія'ў", віленскае „Słowo" піша:

„Известия", ня гледзячы на ўсю сваю прыхільнасць для п. Брыля і Гэльмана шмат больш асьцярожныя, чымся энунцыяцыі, якія высказалі савецкія заправілы ў Менску, казаўшыя аб гатоўнасьці пралетарыята Беларусі ісьці на падмогу „прыгнечаным" масам у Польшчы. Няма дзіва, што ў Маскве патрэбны вышэйшы тон палітыкі, а Менск быў больш сардэчны, а праз тое і больш шчыры. Аб гэтай гатоўнасьці трэба добра памятаць, дзеля таго, што яна зьяўляецца найлепшым комэнтарыям палітычных імкненьняў Саўдэпіі.

Вяртаючыся *да брахлівай кампаніі, якую распачалі соймавыя паслы за межамі* дзяржавы, трэба адзначыць, што грамадзкая думка будзе дамагацца ад іх строгага рахунку за тое, што яны казалі ў Менску і Маскве".

Нядаўна ў „Kur. Warsz." зьявіліся два артыкулы п н. „Школьныя справы ў Віленск ваяводзтве", у якіх аўтар кажа аб літоўскай і беларускай школьнай справе, дзе м. інш. гаворыцца:

„Рэзультаты прапаганды беларускае школы аказаліся зусім нязначныя. Лік дэкларацыяў быў гэткі малы, што не прыйшлося адчыніць ніводнай чыста беларускай школы, але затое адчынілася каля 20-ёх школаў утраквістычных польска-беларускіх у мясцовасцях, у якіх побач дэкларацыяў беларускіх былі зложаны ў адпаведнім ліку дэкларацыі польскія..

Кажучы аб гэтай карэспандэнцыі, „Kur. Wileński" м. інш. зусім справядліва заяўляе:

„Трудна знайсьці вялікшую хітрасьць або незнаёмства са справай, дзеля таго што добра ведама, што беларускае насяленьне, якое складаецца з пары мільёнаў душ, не атрымала ніводнай школы, апрача існуючых ужо 20-ёх белар. школ урадовых і гэта толькі дзеля таго, што *языковыя законы застаюцца ўсё толькі на паперы*, але не дзеля таго, што насяленьне адняслося да роднай школы без ніякага зацікаўленьня.

Гэта насяленьне, не бачучы на ўсе адміністрацыйныя зьдзекі, падало ўжо 15.000 дэкларацыяў, якія даюць яму права на 412 беларускіх пачатковых школ, утрымліваных на ўрадовы кошт. А тое, што, ня гледзячы на ўсё гэта, яно не атрымала нічога, выклікала надта дрэннае ўражаньне для г. наз. „дзяржаўнага інтарэсу", якім гэтак любяць засланяцца некаторыя людзі, калі робяць гвалт або фальшуюць праўду,—і гэта значна пашкодзіла веры ў законнасьць дзяржавы, спаўненьне законаў і мэтазгоднасьць спаўненьня загадаў улады.

Далей аўтар робіць падрахунак тых школаў, якія засталіся да сёньнешняга дня і якія зачынены уладай у працягу 1921—25 г. і канчае гэтак:

„Вось як інфармуюць Варшаву аб крэсавым жыцьці, дык няма дзіва, што ўсяго гэтага вельмі сумныя рэзультаты.

З удзячнасьцю спатыкаючы ў віленскай прэсе справядлівыя і прыхільныя для нас галасы, мы толькі дзівуемся, чаму прыкладам эндэкаў віленскія карэспандэнты не інфармуюць дэмакратычныя польскія органы ў Варшаве аб запраўдным палажэньні справы ў нашай многапакутнай Бацькаўшчыне.

## У С.С.Р.Р.

### Паслы Польскага Сойму у С.С.Р.Р.

Паслам Польскага Сойму, якія паехалі ў Расею (сьпісак паданы ў папярэднім нумары „Грамадз. Гол.") бальшавікі зрабілі пышную сустрэчу. У Менску на станцыі віталі іх прадстаўнікі вышэйшых урадаў, розныя дэлегацыі. „Пачотны караул" быў ад камсамольцаў, іграла аж 6 вайсковых аркестраў. У асобнай групе былі б. паслы Кахановіч і Каліноўскі з шырокімі чырвонымі істужкамі праз плячо, б. сябры Віленскага Белар. Нац. Кам. з Красінскім і Жаўрыдам на чале—мелі болей вузкія гэткія-ж істужкі. Паслы ў Менску не затрымаліся і паехалі ў Маскву.

Там іх сустракалі таксама з помпай. Для спатканьня і прыняцьця гасьцей быў арганізаваны спэцыяльны камітэт. Паслоў частуюць параднымі абедамі і г. д. Адным словам робіцца ўсё магчымае, каб госьці атрымалі з пабыту ў Саўдэпіі якнайлепшае ўражаньне. Адно толькі—ня чуваць, каб да паслоў дапусьцілі нейкую дэлегацыю ад сялян... Ды і іх самых вядуць толькі туды, куды бальшавіцкія ўлады назначылі. Вядома-ж, што пакажуць ім толькі тое, што добра прыгатоўлена „на паказ" заграпічным гасьцём наагул.

Паслы паехалі „азнаёміцца" з палажэньнем. Азнаёмяць іх, а як-жа!

### Народны самасуд.

У Савецкай Беларусі бальшавікі ніяк ня могуць зладзіць з сялянамі. Як ні зварачваюцца „тварам да вёскі" комуністычныя „таварышы"—сяляне іх спатыкаюць вельмі дрэнна. Проста кажучы: б'юць па гэтаму твару. У апошнія часы—ў зьвязку з перавыбарамі ў Саветы павялічылася агітацыя на вёсках. І вось адначасна з гэтым узьнялася хваля сялянскіх самасудаў над камісарамі і іншымі бальшавіцкімі „шышкамі" розных рангаў. За час ад 15 сьнежня 1925 г. да 5 бягучага студня ў аднэй Магілёўшчыне зарэстраваны вось якія выпадкі:

1) Каля мяст. Шклога ў лесе знойдзены трупы забітых: камісара

---

Страшная ведзьма, з малымі злымі вачыма, якая не магла прайсьці праз вёску, каб яе не абкідалі каменьнямі дзеці, жыла ў чорнай нары за вёскай. Спазьніўшыся падарожны, якому трэба было прайсьці тутака сярод ночы, ішоў дрыгочучы і жагнаючыся раз за разам. Пэпэт выцягнуў Мар'етту з гэтае нары і быў шчасьлівы, што мае за жонку найпрыгажэйшую жанчыну ўва ўсей ваколіцы.

Але як-жа-ж яны жылі! Пачцівыя жанчыны казалі аб гэтым з абурэньнем. Відаць было адразу, што гэткая сямейка зьяўляецца рэзультатам нейкіх чартоўскіх штук. Пэпэт амаль што зусім ня выхадзіў з хаты: забыўся аб працы ў полі, не даваў работы людзям сзаім, ані на часіну не хацеў быць падалёк ад жонкі. Людзі, паглядаючы праз адчыненыя дзьверы і заўсёды адчыненыя вокны бачылі іхняе каханьне. У шчасьці ды радасьці, з вясёлым сьмехам, з тысячамі пацалункаў право зілі яны дні і ночы, сьмяючыся сваім каханьнем са ўсяго сьвета і людзей. Гэта ня было жыцьцё хрысьціянскае. Яны былі як два сабакі, ашалеўшыя ад жаданьня, ляцеўшыя праз поля і дарогі побач сябе. Ах! гэта праклятая гадаўка! Гэта яна і ейная маці запалілі гэты чартоўскі вагонь у жылах беднага Пэпэта.

Ніхто ня дзівіўся, бачучы, што ён робіцца ўсё худзейшы, усё жаўцеўшы, усё меншы, быццам грамніца, якая дагарае...

Вясковы дохтар, адзіны чалавек, які сьмяяўся з ведзьмаў, чароўных напіткаў і розных чараў, казаў, што ім трэба разыйсьціся; паводле яго гэта была адзіная рада. Але яны таксама жылі і далей Ен усё болей змучаны і слабы, яна ўсё больш прыгажэйшая ды харашэйшая. Радзіўся сын. Два месяцы пасьля гэтага Пэпэт памёр ціха і спакойна, як гаснуўшая сьвечка. Да апошняй часіны клікаў да сябе жонку, працягваючы да яе рукі з каханьнем.

У вёсцы ўсё заварушылася. Вось рэзультаты чараў! Старая зачынілася ў сваей нары баючыся, каб яе не забілі каменьнямі, а дачка таксама праз цэлыя тыдні ня важылася выйсьці з хаты. Суседзі чулі, як плакала і мучылася.

Урэшце абкіданая поглядамі ненавісьці і праклёнствамі пачала хадзіць на могілкі, забіраючы заўсёды з сабой маленькага сыночка.

Спачатку дрыжэла ад страху перад Пэнлям, сваім страшным дзеверам, для якога забіць чалавека — гэта было дзела мужчынскае адвагі і які няраз пагражаў, што скруціць галаву прыгожай ўдаве і старэй ведзьме. Але ось ужо месяц як яго нідзе ня бачылі. Мусіць хацеў прачакаць у горах нейкую буру разам з іншымі бандытамі, або нейкая „справа" зацягнула яго ў далейшыя ваколіцы.

Мар'етта ўрэшце адважылася выйсьці з хаты і паехаць у Валянс па закупкі... О, якая пані! Якія яна робіць міны, раскідаючы грошы беднага мужу!

Ад варожых шэптаў і мармытаньня ў перагародцы вагона шумела як у вульлі. Падарожныя нахальна з ненавісьцю ды цікавасьцю ўглядаліся на маладую жанчыну. Мар'етта сядзела супакойная і адвярнуўшы да вакна свае каралеўскія п ўныя пагарды вочы, глядзела на мігцеўшыя хутка багатыя плянтацыі, на белыя дамочкі, уцякаўшыя ў блакітную цішыню, удоўжкі лініі імкнуўшага поезда. А ў той час неба на захадзе пачало гарэць, а вялікае чырвонае сонца танула ў залатых воблаках.

Цягнік затрымаўся на малай станцыі. Колькі жанчынаў з паміж найбольш абураных і любіўшых плёткі пачалі хутка выходзіць з вагона, выкідаючы перш-на-перш свае кошыкі і скрынкі.

Прыгожая ўдава, тулячы да грудзей дзіця і нясучы кошык на плячы, памалу выйшла за іншымі. Яна засталася далёка ззаду за разазлаваўшыміся бабамі. Яна хацела быць адна, далёка ад іхніх подлых закідаў.

(*Працяг будзе*).

